№ 169 (291)

Чацвер, 25 верасня 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

# Народная Воля

| Сонца | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 6.49 | 18.53 |
| Магілёў | 6.48 | 18.52 |
| Гомель | 6.46 | 18.50 |
| Мінск | 6.59 | 19.03 |
| Гродна | 7.14 | 19.18 |
| Брэст | 7.15 | 19.19 |



**УКАЗ**
**Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**
**№ 486**

## Аб дадатковых мерах па ўпарадкаваннюператварэння маёмасці ў даход дзяржавы

У мэтах абароны дзяржаўных інтарэсаў і папярэджання правапарушэнняў п а с т а н а ў л я ю:

1. Стварыць пры Кіраўніцтве справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, аблвыканкамах і Мінскім гарвыканкаме камісіі па арганізацыі ўліку, захавання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам (далей — камісіі).

2. Устанавіць, што:

2.1. склад камісіі пры Кіраўніцтве справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь вызначаецца Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

2.2. склад камісій пры аблвыканкамах і Мінскім гарвыканкаме вызначаецца аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам і ў яго ўключаюцца работнікі адпаведнага выканаўчага органа:

наместнік кіраўніка — у якасці старшыні камісіі;

кіраўнік фінансавага упраўлення (яго наместнік) — у якасці наместніка старшыні камісіі;

кіраўнік упраўлення гандлю (яго наместнік);

работнік упраўлення гандлю;

2.3. у склад камісій па ўзгадненню з кіраўнікамі адпаведных дзяржаўных органаў уваходзяць прадстаўнікі мытных і падатковых органаў, а таксама могуць уваходзіць прадстаўнікі іншых дзяржаўных органаў;

2.4. старшыні аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, старшыні камісій нясуць персанальную адказнасць за арганізацыю работ па ўліку, захаванню, ацэнцы і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам;

2.5. улік, захоўванне, ацэнка і рэалізацыя маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам, ажыццяўляюцца ў парадку, устаноўленым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

2.6. перадача на рэалізацыю аўтатранспартных сродкаў і запасных частак да іх, камп'ютэрнай і складанай бытавой тэхнікі, а таксама вырабаў з каштоўных металаў і каштоўных камянёў, мэблевых гарнітураў ажыццяўляецца па ўзгадненню з Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

3. Ускласці на Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь каардынацыю дзейнасці камісій.

4. Камітэту дзяржаўнага кантролю забяспечыць кантроль за работай камісій.

5. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у дзесяцідзённы тэрмін па ўзгадненню з Дзяржаўным сакратарыятам Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь і Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь унесці Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь на зацвярджэнне Палажэнне аб камісіях па арганізацыі ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам;

прыняць меры па прывядзенню заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам.

6. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, аблвыканкамам, Мінскаму гарвыканкаму:

штоквартальна забяспечваць прадстаўленне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь інфармацыі аб выніках рэалізацыі маёмасці, канфіскаванай і ператворанай у даход дзяржавы іншым спосабам;

на працягу двух рабочых дзён пасля ўступлення ў сілу рашэння, прадугледжанага абзацам другім пункта 5 гэтага Указа, зацвердзіць персанальны склад камісій.

7. Камісіям у дзесяцідзённы тэрмін пасля зацвярджэння іх персанальнага складу вызначыць прадпрыемствы, установы, арганізацыі, аб'яднанні, якія будуць ажыццяўляць рэалізацыю маёмасці, ператворанай у даход дзяржавы, за выключэннем маёмасці, у адносінах да якой Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншы парадак рэалізацыі.

8. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт**
**Рэспублікі Беларусь**
**А.Лукашэнка.**

19 верасня 1997 г.
г.Мінск.

**Спорт**

## Узнагароды дасталіся сяброўкам па былой зборнай

На буйных міжнародных лёгкаатлетычных спаборніцтвах, якія праходзілі ў Інданезіі, выдатна выступіла беларуская спартсменка Вольга Кардапольцава. У спартыўнай хадзьбе на 10 кіламетраў яна не толькі заваявала вышэйшую ўзнагароду, паказаўшы час 46 мінут 31,52 секунды, але і значна апярэдзіла бліжэйшую саперніцу Тарсіяну Рывурохі з Інданезіі — 49.18,80.

Яшчэ адна наша кап'якідальніца Таццяна Шыкаленка, якая выступае цяпер за Расію, была другой — 60,22 м, уступіўшы аўстралійцы Луіз Макпол — 62,92 м.

## Біятланісты глядзяць у Нагана праз "Раўбічы"

Мацнейшыя беларускія біятланісты завяршылі першы этап трэніровачнай падрыхтоўкі перад зімовымі Алімпійскімі гульнямі-98, якія адбудуцца ў японскім горадзе Нагана. Паводле слоў галоўнага трэнера зборнай Уладзіміра Плаксіна, старт у "зіму" прайшоў даволі паспяхова і ні ў кога з яго калег сур'ёзных прэтэнзій няма. "Умовы для заняткаў у "Раўбічах" заўсёды былі добрымі, — адзначыў ён. — А ў гэтым перадалімпійскім сезоне для нас, біятланістаў, як кажуць, наогул няма праблем. Мы маем найноўшыя вінтоўкі (Германскай вытворчасці), дастатковую колькасць валюты на закупку патронаў і парафінаў, лыжы нам пастаўляюць вядомыя фірмы "Фішэр" і "Атомік".

На летне-асеннім зборы, адзначыў галоўны трэнер, было пятнаццаць "страляючых лыжнікаў", з іх сем жанчын на чале з лідэрам каманды Святланай Парамыгінай. У мужчынскай кампаніі змен няма. Асноўны склад — гэта Алег Рыжанкоў, Вадзім Сашурын, Аляксандр Папоў, Пётр Івашка і Аляксей Айдараў. Усе яны знаходзяцца ў добрай спартыўнай форме і, паводле сведчання ўрачоў, маюць вялікія фізічныя патэнцыяльныя магчымасці.

Наступны этап падрыхтоўкі беларускіх біятланістаў напярэдадні зімы будзе ўжо "снежным". У трэнераў ёсць выбар, дзе правесці яго.

## Летні біятлон мадэліруе зімнюю Алімпіяду ў Нагана

Зборная страляючых лыжнікаў Беларусі адпраўляецца ў Кракаў, дзе 26—28 верасня пройдзе чэмпіянат свету па летняму біятлону. "Гэтыя спаборніцтвы мы разглядаем як добрую і вельмі карысную трэніроўку перад зімнімі Алімпійскімі гульнямі ў Нагана, — сказаў карэспандэнту БелТА галоўны трэнер каманды Уладзімір Плаксін. — Таму і не ставім канкрэтных задач. Хоць увогуле гэты кантрольны для нашых спартсменаў старт карысны для іх тым, што яны будуць мець магчымасць яшчэ раз прыглядзецца да сваіх асноўных сапернікаў".

На маючы адбыцца чэмпіянат, улічваючы невялікія затраты, паедзе як асноўны склад, так і кандыдаты ў зборную. Выключэнне зроблена толькі для Аляксандра Папова, які прадоўжыць трэніроўкі па індывідуальнаму плану.

Закранаючы далейшыя падрыхтоўкі зборнай, яе галоўны трэнер адзначыў, што пасля кракаўскага этапу біятланісты правядуць зборы ў Туапсэ, а затым выйдуць на снежныя трасы ў Аўстрыі і Швецыі. Мацнейшыя з іх прымуць удзел у Кубку свету ў снежні.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БелТА.**

**Крымінал**

## Да пары збан ваду носіць...

Крыху больш як месяц спатрэбілася супрацоўнікам сталічнай міліцыі на раскрыццё разбойнага нападу, учыненага 13 жніўня ў Мінску.

У той летні вечар злачынцы пазванілі ў кватэру дырэктара адной з фірм. Яго жонка неасцярожна адчыніла дзверы незнаёмцам, і імгненна муж і жонка пад пагрозай пісталетаў былі звязаны налётчыкамі. Завалодаўшы амаль 5 тысячамі долараў, 39 мільёнамі рублёў і відэатэхнікай, зламыснікі зніклі. Затрымаць іх па гарачых слядах пасля звароту пацярпелых у Ленінскі РАУС не ўдалося. Але ўсё ж аператыўнікі выйшлі на злачынцаў. Адзін з іх, мінчанін, які нідзе не працуе, ужо затрыманы. Вядзецца актыўны пошук яго саўдзельніка, жыхара Мар'інай Горкі.

**Сяргей ЦІВАНАЎ, БелТА.**

## Мы, конечно, сами с усами, но как бы нам заполучить зерно из Казахстана, а доллары – из Индии

**Людмила МАСЛЮКОВА, политический обозреватель "Народной воли"**

Так уж сложилось, что упорно декларируемую многовекторную внешнюю политику Беларуси на деле напрочь закоротило на азиатском направлении. Вот и опять глава государства 22—26 сентября посвятил визиту на Восток. Путь через былинно-целинный Казахстан пролег в расчудесную таинственную Индию. Что ищем мы в краю далеком?

Приятны на слух, но не дорого стоят велеречивые мотивы немеркнущей дружбы белоруса, казаха и индуса, которыми переполнена официальная пресса в канун и в дни поездки президента. Чуть существеннее проекты двинуть на Алма-Аты армады тракторов "Беларусь" и гомельских сенокосилок, а на Дели — сокрушительные колонны БелАЗов и МАЗов. Об основном же упоминается вскользь, в подбор, между прочим. Однако на то и коренной интерес, чтоб выпирал из-под покровов.

Беларусь в лице официальных руководителей давно уже похваляется непревзойденным умением жить целиком за счет собственных ресурсов и достижений. Не нужны нам вроде ни чужой каравай, ни презренные западные инвестиции. Но о чем там толкует в связи с этим визитом министр внешнеэкономических связей республики Михаил Маринич?

Срединноевропейская страна готова дать среднеазиатской державе кредиты на закупку белорусской сельхозтехники в расчете на то, что они возвратятся в виде потока казахского зерна нового урожая. А это, во-первых, означает, что речь ведется все о том же допотопном бартере, а не о развитии истинно рыночных отношений между двумя государствами. Во-вторых, сам собою развенчивается президентский тезис о том, что мы-де сами с усами и запросто можем выжить только на своем хлебушке. В-третьих, в политическом аспекте обнаруживают себя и неуклюжие попытки двух лидеров дружить династическими домами, взаимно поддерживая авторитарные режимы — по-средневековому устоявшийся казахский и быстро матереющий белорусский. А неискренни и неуклюжи попытки потому, что всем известно подспудное демагогическое соперничество Александра Лукашенко и Нурсултана Назарбаева на ниве эсэнговской интеграции.

Теперь что касается Индии. Простодушное высказывание упомянутого министра Маринича сводится к тому, что на сказочные заморские те земли сейчас изливается щедрый поток иностранных инвестиций. Инвесторы, разумеется, по происхождению своему отнюдь не из африканских, а из развитых стран. Так вот хитрованистая Беларусь, скорее всего, рассчитывает на то, что хотя бы часть этих франков, марок и американских долларов ей удастся реинвестировать из Дели, Калькутты и Бомбея.

Официальный Минск опять саморазоблачается и выдает "страшную тайну"... Экономика республики крайне нуждается в инвестиционной поддержке, но получить ее от Запада напрямую не в состоянии, потому что испортила политические отношения с куда более близкими, чем Индия, потенциальными богатыми кредиторами. Или, как говорят в таких случаях в народе, за дурной головой ногам покоя нету. В экзотических тридевятых царствах мы ищем то, что могли бы обрести близенько за брестской границей.

25 сентября самолет с делегацией Беларуси должен приземлиться в Калькутте.

**Стоп-кадр**

*Участница народного ансамбля песни и музыки "Бяльніцкія музыкі" Белыничского центра культуры Наташа Набокова.*

Фото Николая ТИТОВА, БелТА.

## Мытня працуе па новых правілах, але не ўсім камерсантам яны падабаюцца

Практычна ўвесь апошні тыдзень ля пагранпераходу "Варшаўскі мост" з польскага боку было шмат загружаных таварамі аўтобусаў. У чарзе перад мінулымі выхаднымі там прастойвала да шасці дзесяткаў у асноўным расійскіх машын. Прычына такой сітуацыі — адмова гаспадароў тавару плаціць мытную пошліну па новых правілах, што ўступілі ў дзеянне з 15 верасня.

Як паведаміў карэспандэнту БелТА начальнік мытні "Заходні Буг" Вячаслаў Асінцаў, на 22 верасня сітуацыя на пагранпераходзе нармалізавалася. З польскага боку засталося 5—7 аўтобусаў, а астатнія накіраваны на беларускія мытныя склады для надгляду. У тых, хто не згодны з новымі правіламі, рэчы прымаюцца на склад для захоўвання.

Паводле слоў Вячаслава Асінцава, тэрміны ўвядзення ў дзеянне новых правілаў правозу маёмасці некалькі разоў пераносіліся, яны былі аб'яўлены загадзя. Таму новы парадак афармлення маёмасці, што перавозіцца праз граніцу, ні для кога не быў нечаканасцю.

**Іван КУКСА.**

Брэст.

**Навіны ААН**

## У ААН — новы камісар

У Жэневе пачала выкананне абавязкаў новы Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека Мэры Робінсан. Аб гэтым карэспандэнту БелТА паведамілі ў Прадстаўніцтве ААН у Рэспубліцы Беларусь.

На сваёй першай сустрэчы з журналістамі пані Робінсан заявіла, што, адказваючы за дзейнасць ААН у галіне правоў чалавека, яна будзе імкнуцца зрабіць усё, каб гэты напрамак стаў неад'емнай часткай дзейнасці.

## ЮНКТАД не толькі аналізуе, але і рэкамендуе

Выйшаў у свет новы даклад Канферэнцыі ААН па гандлі і развіцці (ЮНКТАД) за 1997 год. Як паведамілі БелТА ў Прадстаўніцтве ААН у Беларусі, на думку аўтараў даклада, хутка ўзрастаючая глабалізацыя бізнесу можа прынесці велізарныя выгады ў галіне эканамічнага росту і развіцця, але ў той жа час можа стаць прычынай дамінавання на шэрагу рынкаў некалькіх буйнейшых карпарацый.

Даклад ЮНКТАД па сусветных інвестыцыях за 1997 год заклікае да правядзення палітыкі, накіраванай на стварэнне эфектыўнага функцыянавання рынкаў, але пры пастаянным зніжэнні практыкі абмежавання бізнесу.

## Уводзіцца забарона яшчэ на адно азонаразбуральнае рэчыва

У ходзе праведзенай у Манрэалі дзевятай сустрэчы ўдзельнікаў Манрэальскага пратакола па рэчывах, што разбураюць азонавы слой, якая праходзіла пад эгідай Праграмы ААН па навакольнаму асяроддзю (ЮНЕП), 110 урадаў дзяржаў свету прыйшлі да пагаднення аб узмацненні абмежаванняў на выкарыстанне шэрагу азонаразбуральных рэчываў. Як стала вядома БелТА, Беларусь на гэтым форуме прадстаўляў намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Аляксандр Апацкі.

На сустрэчы было прынята рашэнне аб паэтапным скарачэнні вытворчасці і выкарыстання браміду метылу — дэзінфіцыруючага рэчыва, якое аказвае разбуральнае ўздзеянне на азонавы слой планеты. Удзельнікі сустрэчы распрацавалі таксама сістэму ліцэнзавання, якая дае магчымасць адсочваць міжнародны гандаль рэчывамі, што ўтрымліваюць фтор, хлор, вуглярод і іншыя шкодныя рэчывы.

**БелТА.**

**Открытое письмо**

## Как нам жить дальше в условиях "экономического прогресса" нашего государства

В последнее время из средств массовой информации мы, бывшие работницы завода "Мегом", все чаще узнаем, что в нашем государстве наступило время резкого экономического подъема и жизнь наша с каждым днем становится все лучше. Вполне допускаем, что для какой-то части населения это время действительно наступило. Можем судить об этом и по определенной категории работников нашего бывшего родного предприятия, которому служили верой и правдой по 25—30 лет, и завода радиодеталей, на который обманным путем через увольнение (и это в рамках одного объединения) мы были переведены в 1997 году.

Речь идет о работниках, работающих по контракту и получающих 3 млн. руб. и выше, но абсолютно ничего не сделавших для того, чтобы эти два завода выжили в новых условиях хозяйствования. В результате завод "Мегом" практически прекратил свое существование, его продукция, новые разработки, на наш взгляд, злоумышленно были переданы на ВЗРД, который их загубил, а оборудование, сырье и материалы фактически разворованы. Несколько тысяч работников за два последних года оказались за воротами проходной. Та же участь в ближайшее время ждет и ВЗРД.

Во всех бедах этих предприятий в первую очередь виновен генеральный директор объединения "Монолит" А.В.Брухнов, а также Министерство промышленности и местные власти, которые все эти годы, несмотря на наши бесчисленные обращения к ним, всячески потворствовали беспределу. Сегодня же, закрыв завод, с людьми поступают, как с быдлом. Часть людей перевели на ВЗРД, пообещав загрузку в полную рабочую неделю, а на самом деле наша занятость составляет 4—7 дней в месяц с заработной платой 400—500 тыс.руб. Как существовать на эти деньги? Как кормить детей? Чем компенсировать бешено скачущие цены на продукты и услуги? Кроме того, люди, переведенные на ВЗРД, не нужны там, так как на этом заводе грядет свое масштабное сокращение. Руководство завода и власти, всячески скрывая ликвидацию завода "Мегом", мало того, что выбросили людей на улицу, но и дальше усугубляют возможность трудоустройства, указывая в трудовой книжке причину увольнения — сокращение численности, а не ликвидацию, что соответствует истине. Кто-нибудь ответит за этот беспредел? Как нам жить дальше в условиях "экономического прогресса" нашего государства?

Просим Вас: если завод "Мегом" восстановить уже нельзя, то бывших работников, переведенных на ВЗРД и подлежащих сокращению, трудоустроить или сократить по ликвидации завода, а не по сокращению численности.

**М.Михалевская,**
**Т.Жучек,**
**В.Альтшулер,**
**В.Белькова,**
**Т.Галиченко,**
**О.Ладик,**
**В.Шитикова,**
**В.Селезнева,**
**В.Изотова,**
**В.Гаврилова,**
**И.Малахова,**
**С.Боброва,**
**В.Петухова,**
**В.Лещева,**
**В.Борейко,**
**Т.Ковалевич,**
**В.Бессонова,**
**Р.Лосенкова,**
**Л.Ананьева,**
**И.Томашева** — всего 108 подписей.

### От редакции

*Вот такое письмо получила "Народная воля" из Витебска. Направлено оно также региональной инспекции Госконтроля Республики Беларусь, председателю Витебского облисполкома В.Андрейченко, в местную прессу.*

*108 подписей стоит под письмом. Могло, конечно, быть и 1008, и больше. Собрать подписи — дело, как говорится, техники. Решить проблему, помочь людям выжить в это трудное время — вот задача из задач. И, как видим, незавидное положение у тех же работниц бывшего завода "Мегом". Действительно, можно ли свести концы с концами, получая за месяц 400—500 тысяч рублей? Это же всего два килограмма нормальной колбасы. С таким заработком можно от голода на тот свет отправиться...*

*Редакция "Народной воли" публикует это коллективное письмо не ради того, чтобы лишний раз "укусить" власть за то, что она недостаточно печется о благосостоянии людей, а с целью "подтолкнуть" те же власти к более оперативному решению проблемы. Надеемся, что на публикацию откликнется в первую очередь главный витебский "вертикальщик", председатель облисполкома В.Андрейченко, который расскажет не только авторам письма, но и всем нашим читателям, какие пути найдены для выхода из труднейшего положения.*

**Навіны Гомельшчыны**

## Поле суседа не чужое

Падзячнае пісьмо за дапамогу ва ўборцы ўраджаю збожжавых прыйшло ў адрас гамяльчан ад кіраўніцтва Віцебскай вобласці. Завяршыўшы жніво на ўласных палях, 48 гомельскіх экіпажаў камбайнераў адправіліся на дапамогу хлебаробам Віцебшчыны. Яны намалацілі ў складаных умовах надвор'я звыш за пяць тысяч тон збожжа.

## У такім класе дрэнна вучыцца — грэх

Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі распрацаваў мадэль класа-лабараторыі для вучэбнага цэнтра Беларускага металургічнага завода. Яго тэхнічнае аснашчэнне дае магчымасць ажыццяўляць заняткі на самым сучасным узроўні. Напрыклад, спецыяльныя праграмы, закладзеныя ў камп'ютэрную памяць, дапамагаюць прымаць экзамены, вызначаць узровень працаздольнасці арганізма і яго ўстойлівасць да неспрыяльных фактараў прафесійнага асяроддзя.

## Грэнадская воласць і ў Жлобіне ёсць

Палюбавацца прыгажосцю Грэнады могуць усе наведвальнікі Жлобінскага гарадскога музея. Іспанская мастачка Сакура Санчэс Рованд, якая прыбыла ў горад металургаў, прывезла выстаўку сваіх твораў. У экспазіцыі больш чым 25 работ — пейзажы, нацюрморты, чаканка, вышыўка, іканапіс.

**Віктар КОТАЎ, БелТА.**

## 60 дней в неволе

*Мы ждем тебя, Павел!*



## Адвакат Гары Паганяйла ўпэўнены: Шарамет — зусім не крымінальны злачынца, а звычайны палітычны "вязень"

Калі быць больш дакладным, то вядомы адвакат Гары Паганяйла, які па волі лёсу стаў абаронцам Шарамета, выступаючы не так даўно ў канферэнц-зале гасцініцы "Беларусь" сярод удзельнікаў Міжнароднай канферэнцыі (тэма: "СМІ Беларусі: адметнасці заканадаўства, правы і абавязкі журналістаў"), заўважыў, што ў справе расійскіх журналістаў больш палітычных матываў, чым крыміналу.

І хаця Гары Пятровіча ў апошні час усё больш абвінавачваюць у разгалошванні звестак, якія нібыта складаюць "тайну следства", ніякай свежай інфармацыі пра Шарамета ён не падкінуў. А толькі нагадаў, прааналізаваўшы, даты і абставіны затрымання кіраўніка беларускага бюро ГРТ Паўла Шарамета, вадзіцеля Яраслава Аўчыннікава (у аэрапорце) і аператара здымачнай групы Дзмітрыя Завадскага (дома). Дарэчы, і тут не абышлося, на думку адваката, без парушэнняў.

Падзеі і ход следства адбываюцца і праходзяць даволі цікава, калі не лічыць тых пакут і выпрабаванняў, што выпалі на долю расійскай здымачнай групы ГРТ. Па прызнанню Дзмітрыя Завадскага, ён як тэлеаператар аб нейкіх "палітычных аспектах" будучых тэлесюжэтаў увогуле нават не задумваўся, бо палітыка — не яго захапляючая тэма. Не ўпэўнены "носьбіт тэлекамеры" і ў тым, што ён парушаў граніцу, бо ў раёне, дзе ён з Шараметам рабіў здымкі, мяжа, як і кантрольная паласа, нават не абазначана.

Другі саўдзельнік у перасячэнні беларуска-літоўскай мяжы "па папярэдняй змове групай асоб" Яраслаў Аўчыннікаў, седзячы за рулём службовага аўто, нават не здагадваўся, што знаходзіцца... за межамі роднай Беларусі, якую ні па якой змове пакідаць не збіраўся, бо яму шчасціла і дома. Інакш не спяшаўся б Яраслаў ажаніцца. А тут якраз у "мядовы месяц" (ці не дзівацтва ж!) яго і затрымалі. Нездарма адвакаты накіроўвалі ў рэспубліканскую пракуратуру хадайніцтвы аб спыненні крымінальнай справы супраць вадзіцеля, бо не бачылі... складу злачынства, па якому ён абвінавачваўся.

Не збіраўся пераходзіць мяжу і Дзмітрый Завадскі, у жыцці якога таксама чакалася падзея: сын збіраўся ў першы клас, а пайшоў у школу без бацькі. Вымушана.

І калі Аўчыннікаву і Завадскаму ўсё ж такі змянілі меру стрымання — з утрымання пад вартай на падпіску аб нявыездзе, то Шарамету рыхтавалі адно недарэчнае абвінавачванне за другім, яшчэ больш бязглуздым. То ён "заўважаны" ў сувязях з замежнымі спецслужбамі і выпрабоўваў на трываласць граніцу, правяраючы навейшае абсталяванне, якога... не было. То ён рыхтаваў замах на ўсеагульна абранага...

Як не пагадзіцца з думкай адваката Гары Паганяйла: калі ў следчым працэсе дапускаецца парушэнне за парушэннем, а на скаргі і хадайніцтвы адвакатаў увогуле не звяртаюць увагі, калі суд, які яшчэ не пачаўся, ужо набывае палітычную афарбоўку, то няцяжка здагадацца, якім будзе яго рашэнне.

Дарэчы, ужо споўнілася два месяцы, як Павел Шарамет утрымліваецца за кратамі. Паводле заканадаўства, яму павінны прад'яўляць канкрэтнае абвінавачванне ці па якіхсьці вельмі абгрунтаваных прычынах прадоўжыць ход следства. Цікава, у чым паспрабуюць абвінаваціць Паўла Шарамета на гэты раз?

Можа здарыцца, што пакуль гэты нумар "Народнай волі" будзе друкавацца ў суседняй дзяржаве, а затым дастаўляцца падпісчыкам, Вы, шаноўныя чытачы, ужо будзеце ведаць адказ на гэтае пытанне.

**Віктар СВІРКО.**

## У абарону калегі выступіла Беларуская асацыяцыя журналістаў

Міжнародная канферэнцыя "СМІ Беларусі: адметнасці заканадаўства, правы і абавязкі журналістаў", якую ладзіла нядаўна Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ), завяршылася прыняццем спецыяльнай рэзалюцыі ў абарону расійскіх журналістаў ГРТ.

Беларускія калегі выказалі глыбокае абурэнне "рэпрэсіўнымі дзеяннямі ўладаў" у дачыненні да Паўла Шарамета і ягоных калег. Удзельнікі канферэнцыі падтрымалі ініцыятыву праўлення БАЖ аб вылучэнні абаронцаў Паўла Шарамета для разгляду яго "злачыннай і крымінальнай" справы ў судзе.

Як падкрэсліваецца ў рэзалюцыі, беларускія журналісты не ставяць на мэце адкрытую канфрантацыю з уладай, аднак усе яны жадаюць працаваць "у рамках законаў", якія павінны "цалкам адпавядаць" міжнародным пагадненням, дзе ёсць подпіс Рэспублікі Беларусь.

**Віктар СТАРЦОЎ-СТАРАСЕЛЬСКІ.**

**Солидарность**

## Общественным защитником Павла Шеремета будет Валерий Тихиня

Наталья Шеремет, жена содержащегося под стражей журналиста ОРТ Павла Шеремета, обратилась в Белорусский фонд правового сотрудничества с заявлением избрать общественным защитником ее мужа, судебный процесс над которым ожидается в ближайшем будущем, заслуженного юриста Республики Беларусь, экс-председателя Конституционного суда Республики Беларусь Валерия Тихиню. "Я была бы очень признательна и благодарна фонду и Валерию Гурьевичу Тихине, — написала Наталья Дмитриевна, — за участливое отношение к судьбе моего мужа".

На состоявшемся недавно заседании Совета Белорусского фонда правового сотрудничества его члены единогласно проголосовали за кандидатуру Валерия Гурьевича. Теперь вместе с адвокатом Гарри Погоняйло отстаивать права российского журналиста будет и Валерий Тихиня.

**Мария НАРЕЙКО.**

На жыццёвых скрыжалях

Міхась ПАРАХНЕВІЧ

# Чорны захад

*Перад захадам сонца*
*Ёсць хвіліны тугі.*

*Пятро Глебка*

У палаце пакуль што мы ўдвух. Побач два ложкі, акуратна засланыя нястомнымі рукамі нянечак, чакаюць новых пацыентаў. З ложка, што каля акна, учора выпісаўся Гардзей Мітрафанавіч — задужа наравіты і буйнатвары дзяцюк, які ў далёкім мінулым быў камандзірам партызанскага атрада, потым знаходзіўся на розных наменклатурных пасадах: узначальваў МТС, кіраваў саветамі раёна, потым перавялі ў Мінск, дзе ён доўгі час займаўся бытавымі праблемамі вобласці, а на пенсію пайшоў з пасады дырэктара хлебазавода. У Гардзея Мітрафанавіча за якіх-небудзь два тыдні напрактыкаваныя хірургі "павыганялі" з мачавога пузыра каменьчыкі, пацыент адразу акрыяў, павесялеў і, кладучы ў сумку свае рэчы, басавітым голасам гаварыў не нам, а "нейкім іншым":

— Яшчэ мы з вамі паганяем піўка і яшчэ чаго-небудзь знойдзем.

Другому пацыенту — Аляксею Макаравічу — не давялося з палаты выбрацца дадому: цыроз печані яго, страшэнна жоўтатварага, канчаткова даканаў на ложку...

Майго суседа пасля абпраменьвання ў Бараўлянах прывезлі сюды на далечванне. Ссохлы, як той таран, і жоўты, як скарынка падпаленага батона, ён вось ужо тыдзень моўчкі, скурчыўшыся, праляжаў у ложку, ціха, амаль шэптам выклікаючы белымі ссохлымі губамі то медсястру, то санітарку, і тады я падхопліваўся з ложка і ішоў па доўгім калідоры, дзе ў канцы гарэла дзяжурнае святло. Медсястра спрасонку хутчэй хапала шпрыц, каб уколам зменшыць боль хвораму, санітарка ўзбройвалася "вуткай", просцінамі і цыраткай, каб хворы зрабіў сваю справу, а потым выцерці яго, падаслаць сухое. І так кожны дзень, кожную ноч. Калі я гляджу на суседа ў поўнай ягонай аголенасці, то перад вачыма міжволі паўстаюць кадры кінахронікі пра ахвяры канцэнтрацыйных лагераў: настолькі нязлечная хвароба — рак прамой кішкі — так бязлітасна-прагна магла "абглытаць" усе мяккія тканкі некалі здаровага цела...

Штодня да суседа прыходзіла з густам апранутая, высокая і стройная жанчына. Яе прывабны твар, ярка-жывыя не па ўзросту вочы, здавалася, нейкім чароўным, нябачным святлом напаўнялі нашу змрочную палату, якую толькі пры захадзе сонца краналіся апошнія прамяні. Жанчыну звалі Верай Аксёнаўнай, да самой пенсіі яна працавала ў канструктарскім бюро. Муж быў дырэктарам завода. Разам некалі канчалі тэхнікум, потым — інстытут. Ад Веры Аксёнаўны я і даведаўся, як завуць яе мужа, майго суседа па палаце, — Антон Сямёнавіч. Вера Аксёнаўна, мусіць, ад медсясцёр даведалася пра маё "ад'ютанцтва" ў адносінах да яе мужа, таму вельмі дзякавала мне і пакінула нумар свайго хатняга тэлефона "на ўсялякі выпадак". Мне ж, прызнацца, вельмі хацелася хутчэй скончыць сваё лячэнне, хутчэй падацца дамоў.

У бальніцы з усіх дзён тыдня мне болей падабалася нядзеля: няма доўгіх і нудных абходаў, поўнасцю адсутнічаюць усе працэдуры і ты можаш цэлы дзень спаўна прысвяціць самому сабе: глядзець любімую тэлеперадачу, чытаць, рабіць доўгія прагулкі па прыбальнічным скверыку. І вось сёння нядзеля, дакладней — яе канец, пятая гадзіна вечара.

— Вера, Вера! — ціха паклікаў Антон Сямёнавіч. Ён павярнуўся на левы бок і дзіўна ўставіўся ў мяне.

— Я ваш сусед па палаце, Антон Сямёнавіч, — кажу яму. — Можа трэба якая падмога?

— Падайце, калі ласка, мінеральнай вады.

З мяккага бутля, што стаяў на століку, я наліў поўную шклянку слуцкай мінеральнай. Антон Сямёнавіч няспешна папіў праз трубачку, вочы яго павесялелі, ажывіўся пажоўклы твар. Вось тут мы слова за слова і разгаманіліся. Больш гаварыў Антон Сямёнавіч, і я добра разумеў яго: за ўсе доўгія часіны маўчання чалавеку трэба было як мага болей выгаварыцца. Мяне ўзрушыла не тое, што ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, што доўгі час кіраваў калектывам буйнога завода. За сваё жыццё я сустракаўся не з адным выпадкам, калі розныя там узнагароды ўручаліся далёка не па заслугах, а пасады даваліся па прынцыпу вядомых ленінскіх кухарак... Маё нутро перавярнуў сам жыццяпіс Антона Сямёнавіча. Скручаны хваробай, што называецца, у бараноў рог, ён паўставаў перада мной моцнай, мэтанакіраванай, няскоранай фігурай на каламутнай, ледзяной, бесчалавечай плыні нашага жыцця. Калі да вайны ў трыццаць сёмым Антону было чатыры гады, а ягонаму брату Косціку — адзінаццаць, на іх сям'ю нечакана абрушылася чорная навала: ягонага бацьку — начальніка вакзала — паднялі сярод ночы чэкісты і павезлі ў "чорным воране" ў невядомым накірунку. Так сям'я стала сям'ёй "ворага народа". Чацвёртакласніку Косціку не давалі ў школе праходу, і ён штодзень заплаканы вяртаўся дамоў, а часам з сінякамі і гузакамі на твары, на галаве. Даставалася і маці, якая працавала медсястрой у раённай бальніцы. Яе трыццаці пяці гадоў было дастаткова, каб па вачах, па ўхмылках сваіх саслужыўцаў бачыць, адчуваць іх адкрытую непрязнасць і нават варожасць. Заўсёды бадзёрая, вясёлая, гаваркая, цяпер Алена Фамінічна хадзіла па бальнічным калідоры, па палатах, дзе ляжалі хворыя, цішэй вады, ніжэй травы.

У ліпені сорак першага медсястра Алена Фамінічна разам са стралковым палком адступала ў напрамку Магілёва. Там, казалі, згуртаваліся лепшыя нашы падраздзяленні, якія дадуць дастойны адпор гітлераўцам. Аднак да Магілёва так і не дабраліся: пад Бабруйскам полк быў акружаны і разгромлены. Алену Фамінічну выратавала тое, што яна была моцна паранена. Страціўшы шмат крыві, ад чаго ў вачах мітусіліся-скакалі чырвоныя і зялёныя кругі, жанчына ледзь дабралася ў свае Асіповічы, акупіраваныя немцамі. У добрых суседзяў знайшлі надзейны прытулак яе сыны. Усе разам вярнуліся ў ранейшае жытло — двухпакаёўку ў старым бараку. Як і да вайны, пайшла працаваць у сваю бальніцу медсястрой. Тут цяпер лячылі пераважна параненых ці хворых немцаў. Галоўная думка заўсёды не пакідала Алену Фамінічну: трэба хоць як ды клапаціцца пра дзяцей, каб у іх быў кавалачак хлеба, бульбіна. Неаднаразова наказвала сынам: калі, крый Божа, з ёй што-небудзь здарыцца, то неадкладна дабірайцеся ў Пухавічы да дзеда, да бабулі... Яе чуйнае сэрца быццам адчувала тое трагічнае, якое павінна надарыцца, таму неднойчы гаварыла сынам: "Тады адразу едзьце ў Пухавічы да бабулі, да дзядулі".

Нечакана ў акно іх кватэры нехта пастукаў. Была зімовая ноч сорак другога. Праз парог у кажушку, у валёнках ступіў зарослы густой чорнай шчэццю дзяцюк. Загадным тонам папрасіў у Алены Фамінічны медыкаменты. Потым заглядваў яшчэ і яшчэ, Алена Фамінічна штораз уручала яму лякарствы, якія потым праз сувязных перадаваліся ў лес партызанам. Так працягвалася амаль год. І тут сям'ю нечакана напаткалі два няшчасці, а дакладней — дзве трагедыі. Пры аблаве быў схоплены карнікамі і адпраўлены ў Германію пятнаццацігадовы Косця, і ў той жа дзень гестапаўцы проста ў бальніцы забралі Алену Фамінічну і пасля допытаў і катаванняў разам з падпольшчыкамі расстралялі ў гарадскім кар'еры.

Маленькі Антон хутчэй скіраваўся ў Пухавічы. Усяго спаўна давялося глытнуць — і голаду, і холаду. І ўсё ж перажыў акупацыю, дачакаўся нашых. Пераросткам пайшоў у першы клас. Справа ўся была, мусіць, у генах, бо ўжо пасля заканчэння першай чвэрці настаўніца не без падстаў перавяла Антона ў другі клас. Сямігодку ён скончыў з пахвальным лістом, а вось бруд, што ён — сын "ворага народа", так і не быў змыты з ягоных вострых кволых плячэй. Класны Павел Міхайлавіч параіў Антону асабіста з'ездзіць у Асіповічы, зайсці ў мясцовы аддзел МДБ. "Раскажы ўсё пра брата, а галоўнае пра маці, расстраляную фашыстамі, — навучаў класны Антона. — Табе за маці павінны спаўна заплаціць за усе гады, ты ж, наколькі я ведаю, сядзеў на нішчымнай бульбе, не атрымліваў ні капейкі..."

З'ездзіў у Асіповічы, у прахожых дапытаўся пра патрэбны адрас — і вось ён у пакоі, за сталом якога сядзіць афіцэр. На ягоных плячах — жоўтыя пагоны з палоскамі васільковаго колеру пасярэдзіне, чатыры зорачкі, якое гэта званне — тады Антон не разбіраўся ў гэтым. Антон завучана расказаў пра сваю маці, пра брата, які быў адпраўлены ў Германію і дасюль пра яго ніякіх вестак. "Пра твайго брата я нічога табе сказаць пакуль не магу, ідзе праверка, — гаварыў капітан МДБ (па тым часе было Міністэрства дзяржаўнай бяспекі), а вось пра маці трэба сказаць наступнае: усё ж яна працавала на немцаў у нямецкай бальніцы. А як там было на самой справе — яшчэ праверым-пераправерым..."

Так ні з чым і вярнуўся ў Пухавічы Антон, а праз дзён колькі паехаў у Мінск здаваць дакументы для паступлення ў аўтамеханічны тэхнікум. Конкурс — пяць чалавек на месца, і ўсё ж Антон паступіў. З першых жа дзён, як кажуць, зубамі і нагамі ўчапіўся ў навуку. Ад недаядання кружылася галава, часам хацелася ўпасці на вуліцы, на тэхнікумаўскім калідоры, і каб такое раптам не здарылася, кемлівы Антон прыдумаў для сябе маленькую хітрасць: ідучы на заняткі, раніцою не снедаць, а ў абед трошачкі болей раскашэльвацца.

Тэхнікум Антон скончыў паспяхова, атрымаў дыплом з адзнакай. Паслалі на завод наладчыкам. Наладчык на вытворчасці — тое самае, што сяржант сярод вайскоўцаў. У Антона хапала кемлівасці і ўмельства адрэгуляваць, пусціць самы складаны станок, а ў вельмі крытычны момант, калі такое здараецца, наладчык тут жа падменіць токара, шліфоўчыка, фрэзероўшчыка. Ужо будучы майстрам, паступіў у політэхнічны на вячэрняе аддзяленне. Як толькі абараніў дыплом з адзнакай, выклікалі ў партком, прапанавалі пасаду начальніка аднаго з буйных цэхаў завода.

— Вы, Антон Сямёнавіч, і арганізатар выдатны, і спецыяліст шырокага профілю, — гаварыў за доўгім сталом, за якім сядзела ўся заводская "верхаводзь", сакратар парткома. — Вось толькі ў партыю трэба паступаць. Абавязкова. Як жа вы, беспартыйны, будзеце навучаць-скланяць камуністаў свайго цэха, не будучы партыйцам? А калі калектыў цэха выйдзе, скажам, перадавіком у сацыялістычным спаборніцтве і вам трэба будзе выступіць перад актывам завода, падзяліцца вопытам сваёй працы. І вось — беспартыйны Антон Сямёнавіч на трыбуне, так і гэтак навучае камуністаў. Ці няпраўда, што неяк парадаксальна атрымоўваецца, не ў нагу з нашай рэчаіснасцю...

Каб адбіцца ад дыпламатычнай атакі сакратара парткома, Антон Сямёнавіч з глыбіні душы, як гэта цяжка ні было яму, выкарыстаў свой галоўны козыр, прызнаўшыўся, што ён не хто іншы, а сын "ворага народа". Так, так, і ад гэтага нікуды не дзецца. Наступала, як у тым гогалеўскім "Рэвізоры", нямая сцэна і ўсё ж з-пад ягоных ног не маглі выбіць лесвіцу, што паступова ўздымала яго вышэй і вышэй. Нават тады, калі ў самай высокай інстанцыі яго выклікалі з прычыны прызначэння дырэктарам завода. Спачатку "вярхоўны" лагодненька і з усмешкай намякнуў пра ягоны "беспартыйны пракол", і калі Антон Сямёнавіч спакойным ураўнаважаным голасам пачаў гаварыць, што сама сабою партыйнасць яшчэ не галоўны вынік у нашым агульнадзяржаўным механізме, што кожны слухач гуртка палітасветы добра ведае пра справы беспартыйных Шапашнікава і Горнага, "вярхоўны" рэзка рассек перад сабою далонню паветра і ажно крыкнуў:

— Гэта дэмагогія і не больш. Адным словам, рабіце з нашай размовы вывады...

Антон Сямёнавіч так і не зрабіў вывадаў, і яго ўсё ж прызначылі дырэктарам, узяўшы пад увагу той факт, што ён усе ж да зарэзу патрэбны кадр. Праз колькі год праца Антона Сямёнавіча была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Трывала сталі на ногі дачушка і сын — дачушка за мяжой на дыпламатычнай рабоце, дваццацісямігадовы сын — кандыдат фізіка-матэматычных навук, навучае студэнтаў ва універсітэце...

Расказваючы пра свой жыццёвы цяжкі шлях, Антон Сямёнавіч штохвіліны выціраў ручнікам спацелы твар. Унутры я вінаваціў сябе, што гэтак доўга слухаў душэўную споведзь гэтага надзвычай цікавага, але дужа ж хворага чалавека.

У шырокае акно палаты, заходзячы, бліснуў апошні прамень, і тут жа пачало змяркацца. Чорны захад, чорны захад! Што, якую навіну ты прынясеш у нашу палату заўтра, паслязаўтра. Нават гэтай ноччу...

На калідоры пачуўся знаёмы голас раздатчыцы: яна клікала "здаровых" хворых на вячэру. Такім, як Антон Сямёнавіч, носяць у палату, кормяць іх з лыжкі, быццам у яслях гадавалых дзяцей, проста ў ложку. Сусед слабым голасам папрасіў паправіць падушкі. Я прыўзняў яго, узбіў кулаком зляжалае пад навалкамі пер'е і паклаў сівую галаву Антона Сямёнавіча на "ўзвышша".

І вось я ў калідоры за столікам. Перада мной талерка манкі, дзве лусты хлеба — белага і чорнага, кубак чаю і порцыя масла ў форме вядомых цукерак "Батончыкі". Пяць хвілін — і ад вячэры нічога не засталося. Баляць-смыляць ногі, ломіць рукі пасля даўняй аўтамабільнай катастрофы, а вось на страўнік, дзякуй Богу, ніякіх скаргаў няма. Калі б быў магам-чарадзеем, то хоць бы на адзін дзень паставіў бы на сваё месца свайго аднагодку, жахлівага мучаніка, чысцейшага бессярэбраніка Антона Сямёнавіча...

Вяртаюся ў палату, кідаю позірк на суседні ложак. Падалося, што Антон Сямёнавіч неяк дзіўна, ненатуральна раскінуў у бакі ссохлыя жылістыя рукі. Шырока раскрыты рот, вочы застыла ўставіліся ў столь. Падскокваю, тармушу Антона Сямёнавіча за плячо, хоць ведаю: ужо дарэмна... Тады я заплюшчваю халодныя вейкі, і ў гэты момант мне хочацца крыкнуць. Крыкнуць на ўсю палату і тым самым як бы кінуць праклёнце-выклік дзікай несправядлівасці, жорсткасці, хцівасці, што яшчэ ўчэпіста трымаюцца за сваю існасць. Аднак няма голасу, ён недзе застраў глыбока, на самым донцы горла. Тады я моўчкі імчу па калідоры да дзяжурнай медсястры. Яна за столікам, па маім твары ўсё зразумела. Дрыготкай рукой здымаю тэлефонную трубку, набіраю патрэбны нумар. Пачуўся знаёмы жаночы голас Веры Аксёнаўны.

— Вера Аксёнаўна, — ціха кажу ў трубку. — Гэта з трыццаць другой палаты...

Глыбокае ўздыханне, ледзь чутны голас праз слёзы:

— Зараз еду.. Зараз...

— Божа! Які ты сёння чорны, захад!

Стоп-кадр

Этот веселый цыганский танцевальный коллектив на самом деле совсем не цыганский. Оксана Мазай, Илона Михолап, Надежда Кубарева, Наталья Сивенкова, Маргарита Бельченко и Наталья Виноградова (в центре) — учителя Гомельской средней школы №10. Просто кроме обучения детишек они увлекаются еще и танцами. И надо отметить — достаточно успешно. На районном смотре-конкурсе школа, которую представлял этот коллектив, стала победительницей, а цыганский ансамбль танца признан лучшим.

Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.

## ШАХМАТЫ

### Малыми силами

В.Рябцев

**Белые:** Крс7, Ла4, пп. b3, c3(4).

**Черные:** Крb5, п. c6(2).

**Мат в 3 хода.**

К задачам-миниатюрам относятся задачи с числом фигур не более семи. Несмотря на ограниченность материала, решение их может быть очень содержательным. Одну из таких задач, которая была отмечена призом на конкурсе, мы предлагаем вниманию наших читателей. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте в редакцию. Наш адрес: 220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция "Народной воли", "Шахматы".

### Из коллекции миниатюр

Следующая партия сыграна на международном турнире в Аргентине. В известной теоретической позиции гроссмейстер В.Ткачев применил дебютную новинку, которая принесла быстрый успех.

**У.Спангенберг — В.Ткачев**
**Дебют четырех коней**

1. e4 e5 2. Кc3 Кf6 3. Кf3 Кc6 4. Сb5 Кd4 5. Сc4 Сc5 6. К:e5. Эта позиция хорошо известна и встречалась даже в партиях Алехина. Обычно черные здесь отвечали: 6. ... Фe7 с обоюдоострой игрой. Но, как выяснилось, Ткачев заготовил для соперника дебютный сюрприз: 6. ... d5!? 7. К:d5? Эффект новинки сработал — белые сразу допускают ошибку. Правильно было: 7. ed.

7. ... К:d5 8. Фh5. Оказывается, на 8. С:d5 последует 8. ... Фg5, и позиция белых рушится. 8. ... g6 9. К:g6. Ничего другого не видно. 9. ... К:c2+ 10. Крf1. (Нельзя 10. Крd1 ввиду 10. ... Сg4+! 11. Ф:g4 Кde3+ 12. fe Кe3+ с выигрышем ферзя, плохо и 10. Крe2 Фf6 11. К:h8 Кf4+ или 11. Ф:d5 Ф:f2+ 12. Крd1 Кe3+ 13. de Сg4+) 10. ... Фf6 11. f3 hg 12. Ф:d5 Лh5.

**Белые сдались.**

### Турнир ветеранов

В Минске состоялся молниеносный шахматный турнир ветеранов, который был посвящен памяти известного журналиста кандидата в мастера Ю.Н.Новикова. В соревнованиях приняли участие 18 шахматистов. Победителем стал мастер спорта Абрам Ройзман, набравший 16 очков из 17 возможных. На 3 очка отстал кандидат в мастера Валерий Комиссаров, занявший второе место.

## ШАШКИ

### Им дамки только снятся

Именно так хочется сказать в адрес черных простых в четырех нижеприведенных концовках-миниатюрах, автором которых является кандидат в мастера спорта по шашечной композиции Валентин Степанов из хакасского города Абазы.

I. **Белые:** простые a1, e3, e5, f4, g3(5).
**Черные:** простые b2, c3, e7, g7, h2(5).

II. **Белые:** простые c5, e3, e5, f4, g3(5).
**Черные:** простые a5, c3, c7, g7, h2(5).

III. **Белые:** простые a5, c7, d6, e3, f4, g3(6).
**Черные:** простые a7, b8, c3, e5, f6, h2(6).

IV. **Белые:** простые b4, b6, f4, f6, g5, g7(6).
**Черные:** простые a7, d2, d4, d6, e3, h4(6).

Как видно из первоначальной расстановки, в каждой позиции, как минимум, одна черная простая находится на преддамочном поле. Еще один ход — и она уже в дамках. Но... Везде очередь первого хода за белыми. Они в каждой позиции проводят комбинации, причем на различные практические темы. После чего черные, так и не попав в дамки, должны терпеть поражение.

Свои решения следует присылать по адресу: 220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция "Народной воли", "Шашки".

### На заметку практику

Н.Кукуев — В.Лисенко (I чемпионат СССР, август 1924 г.)

1. c3-b4 b6-a5 2. b4-c5 d6:b4 3. a3:c5 f6-g5 4. b2-c3 g5-h4 5. a1-b2 (Разыгран классический вариант дебюта "Кол") 5. ... g7-f6 6. c3-d4 c7-b6 7. b2-a3 d8-c7 (Нельзя 7. ... a5-b4 из-за 8. e3-f4 и 9. f4-g5) 8. g3-f4 a5-b4 9. c5-d6! c7:g3 10. a3:c5 f6-g5 11. h2-f4 e7-d6? (Проигрывает. Необходимо было играть 11. ... h8-g7 и 12. ... g7-f6 с равенством) 12. c5:e7 f8:d6 13. f2-g3! h4:f2 14. e1:g3 g5-h4 (Печальная необходимость) 15. c1-b2! h4:f2 16. f4-e5 d6:f4 17. e3:g5 h6:f4 18. g1:g5 с неизбежным прорывом в дамки. Через три хода черные сдались.

Впервые эта партия была опубликована в журнале "64" (1925 г.). С тех пор проведенная белыми комбинационная идея прочно вошла в шашечную литературу под названием "штучка Кукуева".

Однако справедливости ради следует отметить, что еще в 4-м Всероссийском турнире (июнь 1901 г.) аналогичная комбинация встретилась в партии **А.Шошин — В.Васильев**.

1. c3-d4 d6-c5 2. b2-c3 c7-d6 3. a1-b2 d6-e5 (Разыгран дебют "Обратный перекресток") 4. g3-h4 (Интересно, если бы сейчас черная простая "e7" находилась на поле "c7", то возможна была бы следующая комбинация: 4. ... c5-b4! 5. a3:c5 e5-f4 6. e3:e7 f8:b4 7. c3:a5 h6-g5 8. h4:f6 g7:a1 с прорывом в дамки) 4. ... e5-f4 5. e3:g5 h6:f4 6. f2-e3 g7-h6 7. e3:g5 h6:f4 8. a3-b4! c5:a3 9. d4-c5 b6:d4 10. c3:g3 h8-g7 11. b2-c3 e7-d6 12. g3-f4 g7-h6 13. d2-e3 f8-e7 14. e1-d2 f6-g5? (Ошибочный ход, ведущий к поражению. Но и без этого позиция черных неприятная) 15. h4:f6 e7:g5 16. h2-g3! g5-h4 (Лучшего у черных нет) 17. c3-d4 h4-f2 18. f4-e5 d6:f4 19. e3:g5 h6:f4 20. g1:g5, и вновь прорыв белых в дамки неизбежен, и потому черные через семь ходов сдались.

Но не всегда этот интересный комбинационный прием приводит к успеху. В некоторых случаях у черных возникает не менее оригинальный контрприем.

**Белые:** простые a3, c1, d2, d4, e3, f4, g1, g3(8).

**Черные:** простые a5, a7, b8, d6, f8, g5, g7, h6(8).

После 1. ... g5-h4 белые быстро ответили 2. c1-b2? h4:f2 3. f4-e5 d6:f4 4. e3:g5 h6:f4 5. g1:g5. Последовало далее 5. ... g7-h6! 6. g5-f6 (Вынужденно) 6. ... f8-e7 7. f6:d8 b8-c7 8. d8:b6 a7:c1, и белые сдались.

**Борис АГАШИН,**
**мастер спорта.**

Дзень у гісторыі

# 25 верасня

У 1792 г. нарадзіўся Іван Іванавіч Лажэчнікаў, рускі пісьменнік. Сучаснікі называлі яго "рускім Вальтэрам Скотам", а ў сённяшняй Беларусі ён лічыцца першым рускім раманістам. Самыя вядомыя з яго раманаў — "Ледзяны дом" і "Апошні Новік". (Мала хто ведае, што ў сярэдзіне 1850-х гадоў стацкі саветнік І.І.Лажэчнікаў быў віцэ-губернатарам Віцебскай губерні.)

У 1872 г. адкрылася Полацкая настаўніцкая семінарыя — сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў для начальных народных вучылішчаў. У ёй акрамя звыклых нам зараз прадметаў выкладаліся асновы рускай і царкоўна-славянскай моў, асновы геаметрыі і каморніцтва, чыстапісанне і Закон Божы.

У 1897 г. нарадзіўся Уільям Фолкнер, амерыканскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, пясняр амерыканскага Поўдня. Ён нарадзіўся і пражыў амаль бязвыезна на "лапіку зямлі велічынёй з паштовую марку" — у маленькім амерыканскім гарадку Оксфардзе, тут пісаў свае гістарычныя раманы-сагі "Сарторыс", "Шум і лютасць", "Дзікія пальмы"... Памёр, зваліўшыся з каня, ва ўзросце 65 гадоў.

У 1920 г. нарадзіўся Сяргей Бандарчук, рускі акцёр і рэжысёр, які стварыў шмат вобразаў мужных, поўных унутранай сілы і душэўнай прыгажосці людзей: украінец Тарас Шаўчэнка, маўр Атэла, рускі граф П'ер Бязухаў і іншыя.

У 1921 г. у Вільні пачалася І Усебеларуская канферэнцыя, у якой удзельнічалі прадстаўнікі беларускіх партый і арганізацый з Заходняй Беларусі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Славакіі, Чэхіі і Германіі. На канферэнцыі была выпрацавана рэзалюцыя аб незалежнай і непадзельнай Беларусі "як дзяржаве працоўнага народа" ў цэнтры Еўропы.

У 1940 г. было створана Беластоцкае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі на чале з Піліпам Пестраком, у якога якраз у 1940 г. выйшаў першы зборнік вершаў "На варце".

У 1964 г. Фронт нацыянальнага вызвалення Мазамбіка пачаў узброеную барацьбу супраць партугальскіх каланізатараў за сваю незалежнасць. Сам Мазамбік знаходзіцца ажно ў Паўднёва-Усходняй Афрыцы, а лічыўся "заморскай правінцыяй" Партугаліі. З XVI ст. партугальскія гандляры рабамі вывозілі чарнаскурых жыхароў на продаж у Бразілію (амаль да XX ст.). Знялюбела гарачым афрыканскім хлопцам усё гэта — вось і загукалі: "Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!"

У 1971 г. адкрыўся мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой. Ён аб'ядноўвае галоўны манумент "Мужнасць", плошчу Цырыманіялаў, трыбуну, штык-абеліск і закансерваваныя руіны.

У 1989 г. у Жэневе пачаўся 12-ты раунд савецка-амерыканскіх перамоў аб ядзерным і касмічным узбраенні. Чалавецтва замерла ў чаканні: ці "свецяць" яму "зоркавыя войны"?..

**Зміцер ВІШНЁЎ.**

Конкурс

# "Міс Міншчына" жыве ў Слуцку

Абласны тур конкурсу "Міс Міншчына" адбыўся ў Барысаве 21 верасня. У ім прынялі ўдзел 15 дзяўчат — пераможцаў гарадскіх конкурсаў. Задача перад кампетэнтным журы пад старшынствам народнага артыста Беларусі Віктара Вуячыча стаяла вельмі няпростая: ацаніць эрудыцыю і камунікабельнасць канкурсантак, іх уменне весці гутарку, здольнасць выглядаць натуральна і непаўторна ў нацыянальным і маладзёжным касцюмах.

Карону каралевы Міншчыны заваявала семнаццацігадовая Юля Самасадава са Слуцка. Віцэ-міс стала Таццяна Кондраль — вучаніца 11-га класа сярэдняй школы нумар 1 з Мар'інай Горкі. "Міс-чароўнасцю" была названа Надзя Антошкіна — навучэнка політэхнічнага ліцэя горада Барысава. А спецыяльны прыз у намінацыі за лепшы нацыянальны касцюм атрымала Наталля Радзівіновіч, медсястра дзіцячага сада нумар 13 горада Слуцка. Усім дзяўчатам былі ўручаны дыпломы і прызы.

Аднак для пераможцаў усе выпрабаванні ячшэ наперадзе. Іх чакае вучоба ў нацыянальнай школе прыгажосці і ўдзел у конкурсе "Міс Беларусь".

**Аксана АСПІШЧАВА,**
**БелТА.**

Спорт

# Гандбалісты на Кіпры пабывалі

Паспяхова правялі матчы папярэдняга этапа еўрапейскага розыгрышу Кубка кубкаў гандбалісты мінскага клуба "Аркатрон". Маладыя выхаванцы вядомага ў мінулым ігрaка сталічнага СКА Мікалая Жука лёгка справіліся з аматарскай камандай "Лача" (Кіпр). У гасцях нашы перамаглі 29:16, а 21 верасня дома дабіліся яшчэ больш унушальнай перавагі ў ліку — 39:19.

# Кантынентальны кубак: "Цівалі" барацьбу не працягне

Перамогшы ў двух матчах і адзін завяршыўшы ўнічыю, хакеісты мінскага "Цівалі" ўсё ж выбылі з барацьбы за Кантынентальны кубак. У Рызе нашы спачатку разгромілі літоўскую "Энергію" (Электрэнай) — 11:2, а затым перайгралі эстонскі "Кеэмік" (Кохтла-Ярве) з лікам 4:2. Лёс адзінай пуцёўкі ў чвэрцьфінал вырашыўся ў паядынку з рыжскім клубам "Юніёрс-Эсаміка". Настойлівы матч прынёс гаспадарам жаданую нічыю — 1:1.

## ТЕЛЕПРОГРАММА

### Четверг, 25 сентября

**Белорусское телевидение**

**16.05** "Я рисую".
**16.20** ТВ — школе. История Беларуси. 11-й класс. Культура Беларуси в конце XVIII — первой половине XIX столетий.
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** Уроки Н.Новожиловой.
**17.45** Экономикст.
**17.55** "Музыкальная обойма".
**18.00** Новости.
**18.15** "Черный замок Ольшанский". Худ. фильм ("Беларусьфильм"). 1-я серия.
**19.20** Тема дня.
**19.40** Сделано в Беларуси. Открытое акционерное общество "Гомельская промышленно-торговая фирма "8 Марта".
**19.55** "АРТ-клуб". Актерско-режиссерский курс под руководством доцента Белорусской академии искусств Бориса Второва.
**20.25** Музыкальный антракт.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** Телебарометр. Прогноз погоды.
**22.05** В.Хохряков и Р.Нифонтова в худ. фильме "Ошибка Оноре де Бальзака".
**23.45** Крок. Программа для молодежи.
**0.25** Новости.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10** Новости.
**8.15** "Девушка по имени Судьба". Сериал.
**9.00** "Чтобы помнили..." Николай Волков. Ведущий — Л.Филатов.
**9.45** Клуб путешественников.
**10.30** Домашняя библиотека.
**10.35** Смак.
**14.20** "Драконы подземелий". Мультсериал.
**14.40** "Парад-алле!" Цирковой фестиваль в Анапе.
**15.10** Лего-го!.
**15.40** "Гарри — снежный человек". Комедийный сериал.
**16.05** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** Вокруг света.
**17.20** "Девушка по имени Судьба". Сериал.
**18.05** Погода.
**18.10** Час пик.
**18.35** Джентльмен-шоу.
**19.05** Моя семья: сплетни.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Программа передач.
**20.45** Побег из джунглей в приключенческом фильме "Забыть Рангун".
**22.40** Магия: мир сверхъестественного.
**23.20** "По улицам ходила..." Документальный фильм.
**23.45** Программа передач.

**Канал "Россия"**

**7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**7.20, 23.10** Дежурная часть.
**7.35** "Ветер в спину". Телесериал (Канада).
**8.20, 19.35** Национальный интерес.
**8.50, 9.50, 0.10** Товары-почтой.
**9.00** "Санта-Барбара". Сериал.
**13.20** Деловой автограф.
**13.30** "Геркулес возвращается". Худ. фильм (Австралия).
**14.55** Мультфильм.
**15.10** Графоман.
**15.20** Лучше не бывает.
**15.30** Ваше сословие.
**16.20** Православный календарь.
**16.25** "Санта-Барбара". Сериал.
**17.20** Лукоморье.
**17.40** История одного события.
**17.55** "Ветер в спину". Телесериал (Канада).
**20.10** "Ночь нежна". Телесериал (США). 5-я серия.
**21.15** Сам себе режиссер.
**21.50** Наш Пушкин.
**22.20** Добрый вечер.
**23.25** Вовремя.
**23.30** Кафе "Обломов".

**Санкт-Петербург**

**15.30, 18.30, 21.30** Информ ТВ.
**15.40, 20.30** Телеслужба безопасности.
**15.55** "Убойный отдел-2". Сериал (США). 4-я серия.
**16.50** Маленькие звездочки-97.
**17.25** Телемагазин.
**18.45** Спорт.
**18.55** Большой фестиваль.
**19.10** "Убойный отдел-2". Сериал (США). 4-я серия.
**20.00** Телестанция "Моя Россия".
**20.45** Поэзия Марины Цветаевой.
**20.50** Сокровища Петербурга. "Сквозь пыль времен".
**21.00** Театральная программа "Апарт". Ленком в Петербурге.
**21.40** Информ ТВ. Пролог.
**21.50** Спорт.
**22.00** "Черный кот". Художественно-публицистическая программа.
**22.30** Телекомпакт. Музыкальное шоу.

**НТВ**

**5.00, 9.00** Сегодня утром.
**8.05** Мужской сериал. "Пока не наступило утро" (Италия).
**9.15** Дог-шоу. Я и моя собака.
**9.50** Новости кино.
**10.00** Женский сериал. "Танец на площадке" (США). Часть 2-я.
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.20** Старый телевизор.
**13.20, 15.20** Финансы и бизнес.
**13.30** Мир кино. Комедия "Невинные обманы" (США).
**15.30** Программа для детей "Улица Сезам".
**16.00** Док. сериал. "XX век в войнах" (США). Фильм 26-й Заключительный.
**16.55** Криминал.
**17.00** Впрок.
**17.15** "Дистанция"+"Щелчок".
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Мир кино. Сильвестр Сталлоне в боевике Андрея Кончаловского "Танго и Кэш" (США).
**21.45** Час сериала. "Доктор Куин, женщина-врач". Часть 4-я. 1-я серия (США).
**22.35** Сегодначко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.15** В печать.
**23.25** Кино не для всех. Философская драма Кшиштофа Занусси "Жизнь за жизнь. Максимилиан Кольбе" (Польша — Германия).

**ТВ-6 Москва**

**14.00** История государства Российского "Верой и правдой", 1-я серия.
**15.25, 17.00** Телемагазин "Спасибо за покупку!"
**15.45, 22.10** "6 дней ТВ-6 в г.Сургуте". Дневник фестиваля.
**16.05** Сериал для подростков "Флиппер".
**16.35, 23.30** Диск-канал.
**17.10** Аптека.
**17.20, 23.15** Дорожный патруль.
**17.35** Кинескоп.
**18.35, 0.15** Знак качества.
**18.55, 20.00, 23.00** Шесть новостей.
**19.05** Ток-шоу "Сделай шаг".
**20.15.** В.Приемыхов и С.Шакуров в фильме "Псы II" (Польша).
**22.30** Те Кто.

**8-й канал**

**18.00** Для детей "Пострелята".
**18.30** Программа Кеннета Копланда.
**19.00** Худ. фильм "Крик города".
**20.30** Мульт-планета.
**20.45** Сериал "Горец-4".
**21.45** Музыкальный конвейер.
**22.30** Трейси Голд в мелодраме "Взгляд в ее прошлое".





**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя адказнасці не нясе. Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ЗАТ "Летувас рытас". Адрас: г. Вільнюс, пр-т Гедыміна, 12а. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: першы завод —50 200 экз. Заказ №2171